


# Вескі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 8 (594)**
**Жнівень 2015 г.**


# Марш Паняволеных Народаў на Мангэтане

У нядзелю 12 ліпеня 2015 году на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў Марш Паняволеных Народаў, што адкрыў Тыдзень Паняволеных Народаў – шэраг мерапрыемстваў, прысьвечаных прыцягненьню ўвагі амэрыканскай грамадзкасьці да становішча народаў, што працягваюць знаходзіцца пад уціскам камуністычных, посткамуністычных ды кожных іншых тыраніяў і дыктатураў.

Тыдзень Паняволеных Народаў быў запачаткаваны ў 1959 годзе адмысловым урадавым законам – загадам прэзыдэнта Д.Д. Айзэнгаўэра, што пасьля быў зацьверджаны Кангрэсам ЗША як грамадзкі закон. Тыдзень Паняволеных Народаў стаў пляцоўкай і нагодай для выказваньня пратэсту супраць расейскага камуністычнага імпэрыялізму. Заснавальнікамі Камітэту Паняволеных Народаў, які вёў і каардынаваў ня толькі імрэзы Тыдня Паняволеных Народаў, але і кожную працу, скіраваную на дапамогу паняволеным народам, сталі эмігранцкія арганізацыі з Эўропы й Азіі. На працягу ўсіх тых гадоў камуністычнага панаваньня аж да 1989-1991 гадоў прадстаўнікі эміграцыйных арганізацыяў народаў, якія былі паняволеныя расейскім камунізмам: палякаў, эстонцаў, мадзяраў, славакаў, украінцаў, чэхаў, баўгараў, казакоў, харватаў, летувісаў ды іншых, ладзілі сумесныя мітынгі пад савецкімі дыпляматычнымі прадстаўніцтвамі, рабілі пікеты, распаўсюджвалі публікацыі, працавалі з сэнатарамі й кангрэсмэнамі, з прэзыдэнцкімі адміністрацыямі.

Сярод заснавальнікаў Камітэту былі таксама беларускія грамадзкія арганізацыі ў Амэрыцы. Пад кіраўніцтвам Камітэту Паняволеных Народаў на працягу дзясяткаў гадоў на кожны трэці тыдзень ліпеня Нью-Ёрк рабіўся трыбунай масавых дэманстрацыяў і публічных акцыяў прадстаўнікоў усіх краінаў Усходняй Эўропы і Азіі, якія падмяў пад сябе маскоўскі бальшавізм. Адным з адмысловых мерапрыемстваў Тыдня была дэманстрацыя Паняволеных Народаў каля Статуі Свабоды на 200-годзьдзе ЗША. У 1988 годзе, на 30-годзьдзе Тыдня, у яго-ных падзеях узяў удзел прэзыдэнт Рональд Рэйган, які ў сваёй прамове сказаў: "Сябры, паверце – Амэрыка ніколі не забудзецца на пакуты паняволеных народаў па ўсім сьвеце! Мы ніколі не перастанем казаць праўду. Вашае змаганьне ёсьць і нашым змаганьнем. Вашая мара – ёсьць і нашай марай. І аднойчы вы пераможаце, аднаго дня вы зробіцеся вольныя!"

Штогод беларускія арганізацыі бралі актыўны ўдзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, і асабліва вылучалася Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, калі кіраваў ім сп. Антон Шукелойць, якому сёлета, дарэчы, спаўнілася 100 год. Але апошнія 4-5 год нікога ад Задзіночаньня амаль не было. Затое сёлета, як і скрозь за апошнія 4 гады, луналі бел-чырвона-белыя сьцягі сябраў Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня", якое першы раз афіцыйна ўзяло ўдзел у Тыдні, што пачынаецца Маршам Паняволеных Народаў, у 2012 годзе.

Нажаль, вось ужо шмат гадоў не відаць на імпрэзах тыдню і прадстаўнікоў тых усходнеэўрапэйскіх ды азіяцкіх арганізацыяў, што некалі задавалі тон. Сёлета, як і летась, асабліва слуш-

***заканчэньне на бачыне 2***



# Ліпеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі адкрыцьця Тыдня Паняволеных Народаў у скарочаным фармаце прайшоў ліпеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. На ім вырашаліся тэхнічныя пытаньні дзейнасьці арганізацыі, прагучэлі аб’явы.

Наступны жнівеньскі сход вырашана было правесьці 8-га жніўня 2015 году а 10:30 гадзіне раніцы на прыродзе ў Цэнтральным парку на Мангэтане. *(Гл. абвестку на 4-й бачыне)*



## Марш Паняволеных Народаў

***заканчэньне з бачыны 1***

ным, дарэчы, быў бы ўдзел украінскіх арганізацыяў, што маглі б болей прыцягнуць увагу грамадзтва да рабуральнага расейскага згаршэньня і агрэсіі ў Крыме й на ўсходзе Украіны. Некалькі год таму назад на Маршы зьяўляліся прадстаўнікі альбанскіх арганізацыяў, кітайскія і віетнамскія антыкамуністы, прыхільнікі незалежнасьці Тыбэту, прадстаўнікі Кубы, Нікарагуа. Нажаль сёлета, яны ня выказалі зацікаўленасьці ў супрацы ў рамках Камітэту Паняволеных Народаў, і гэткая раздрабнёнасьць па “нацыянальных кватэрах” працуе толькі на руку таталітарным дыктатурам.

Напачатку ўдзельнікі імрэзы сабраліся каля гатэлю “Пляза” пры 59-й вуліцы і 5-й авеню. Затым яны калёнаю пайшлі да Сабору сьв. Патрыка пры 50-й вуліцы, дзе адбылося асьвячэньне сьцягоў ды імша за Паняволеныя Народы й вызваленьне іх ад тыраніі. Сьцягі высьвячаў пробашч Сабору Мансэньёр Робэрт Рытчы, які таксама ўзгадаў некалькі разоў Паняволеныя Народы ў сваёй казані і падчас літургіі.

Пасьля імшы ўдзельнікі імпрэзы прайшлі Маршам па 5-й авеню да 72-й вуліцы. Падчас Маршу гучэлі лёзунгі “Жыве Беларусь!”, “Свабоду паняволеным народам!” “Свабоду Беларусі!”, “Беларусь – так! Лукашэнка – не!” Скрозь на маршы дамінавалі беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, маршыруючыя несьлі транспарант Камітэту Паняволеных Народаў, плякаты “Свабоду палітвязьням”, “Пуцін: прэч рукі ад Украіны!”, “Жыве Беларусь!”. У Цэнтральным парку адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдню Паняволеных Народаў, якое адкрыў уступным словам сп. Яан Куўм, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, прадстаўнік амэрыканска-эстонскай грамады. Была зачытаныя праклямацыі ад губэрнатара штату Нью-Ёрк і кіраўніцтва Камітэту Паняволеных Народаў.

Ад беларускай грамады выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка, які прысьвяціў галоўную ўвагу свайго выступу ўдзелу моладзі ў змаганьні за свабоду й дэмакратыю ў Беларусі, а таксама сьцьвердзіў, што змаганьне за свабоду – гэта штодзённы рэфэрэндум, свабода ня ёсьць рэч бясплатная, за яе плоцяць крывёю.

Выступілі таксама прадстаўнікі Камітэту ад Эстоніі й Усходняй Прусіі, ад Паўночнага ўсходу ЗША. Была прынятая рэзалюцыя, у якой урад ЗША заклікаецца да актыўнейшага ўдзелу ў дапамозе паняволеным народам і асуджаецца расейскі рэваншызм і посткамуністычныя тыраніі ў сьвеце, у прыватнасьці, у Беларусі, дзе рэжым Лукашэнкі застаецца выспаю несвабоды й рэпрэсіяў на эўрапейскім кантынэнце.

Была ўшанаваная памяць эстонкі Юты Кімель, былой удзельніцы Камітэту Паняволеных Народаў, што залетась, у 100-гадовым узросьце брала ўдзел у Маршы. Таксама было адзначана, што прашло ўжо два гады ад скону былога актыўнага старшыні Камітэту Паняволеных Народаў сп. Горста Ўліха. Прамовы былі ўважліва выслуханыя прысутнымі, большасьць якіх складалі прадстаўнікі “Пагоні” ды іхныя сябры і знаёмыя.

***Віталь ЗАЙКА***



***Мансэньёр Робэрт Рытчы прамаўляе да ўдзельнікаў Маршу.***

# Сьвяткаваньне 100-гадовага юбілею сп. Антона Шукелойця

У нядзелю 19 ліпеня беларуская грамада Нью-Ёрку і ваколіцаў урачыста адзначыла100-гадовы юбілей грамадзкага і палітычнага дзеяча сп. Антона Шукелойця. Імпэза адбылася ў царкоўна-грамадзкай залі пры Саборы сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ на 401 Атлянтык авэню ў Брукліне.

Напачатку ў залі прагучэў гімн “Не пагаснуць зоркі ў небе” на словы Янкі Купалы. З уступным словам выступіла старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА сп-ня Тацьцяна Красаўская. Яна павіншавала сп. Антона Шукелойця ад імя свайго аддзелу, пажадала яшчэ доўгіх гадоў плённага жыцьця. Затым з прывітаньнем ад парафіяльнай рады Сабору выступіў сп. Расьціслаў Гарошка. Ён адзначыў, што сп. Антон Шукелойць спрычыніўся да набыцьця будынка Сабору, і пра тое што ён каштаваў тады каля 20 тысяч даляраў, а цяпер за яго прапаноўваюць 6 мільёнаў. Ён адзначыў, што сп. Антон Шукелойць на працягу 32 гадоў быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, старэйшай дзеючай беларускай арганізацыі ў Амэрыцы, якая была заснаваная ў 1949 годзе.

Затым слова ўзяў старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ) сп. Вітаўт Кіпель. Ён адзначыў, што ажно шэсьць пакаленьняў сям’і Кіпеляў былі й ёсьць знаёмыя зь сёнешнім юбілярам. Сп. Шукелойць меў вельмі добрыя адносіны зь Лявонам Савёнкам – бацькам Зоры Кіпель, і з Яўхімам Кіпелем – бацькам Вітаўта. Яўхім пазнаёміўся са сп. Шукелойцем праз М. Шкялёнка, і па ягоным даручэньні сп. Шукелойць выконваў падрыхтоўчую працу для правядзеньня 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу ў 1944 годзе. А. сп. Вітаўт бліжэй пазнаёміўся зь юбілярам у драматычных абставінах эвакуацыі зь Менску ў канцы чэрвеня 1944 году перад наступаючымі бальшавікамі. Калі ўжо грузіліся ў цягнік, сп. Шукелойць заўважыў, што Вітаўта няма, і на машыне стаў шукаць яго па ўсім горадзе, а ён у той час катаўся зь дзеўкамі па возеры на лодцы. “Каб не сп. Шукелойць, напэўна, застаўся б у горадзе і, невядома што з гэтага было б”. Затым сп. Кіпель распавёў пра грамадзкую і адукацыйную дзейнасьць сп. Шукелойця ў Нямеччыне, а пасьля ў Злучаных Штатах, пра дапамогу былым ДП-уцекачам. Сп. Шукелойць вёў адукацыйную працу і ў Амэрыцы, выкладаў у нядзельнай школцы для беларускіх дзяцей. Акрамя ўжо згаданага старшынства БАЗА на працягу 32 гадоў, сп. Шукелойць імкнуўся ствараць структуры на новых месцах. Так, з ягонай дапамогай у 1979 годзе паўстала група падтрымкі БАЗА ў Вашынгтоне, што цяпер пераўтварылася ў сапраўдны аддзел. Калі адбылася Чарнобыльская катастрофа, сп. Шукелойць разам з Алексам Сільвановічам зарганізавалі дапамаговы фонд “Адраджэньне”. “Для нас сп. Шукелойць прадстаўляе тып беларускага дзеяча, грамадзяніна, беларускага чалавека, што адданы нацыянальнай справе і заўсёды гатовы прыйсьці на дапамогу”.



Сп. Янка Запруднік у сваім выступе адзначыў шлях сп. Шукелойця да беларускай нацыянальнай працы, і пра тую ролю, што адыграла этнаграфія, штудыі ва ўнівэрсытэце. Наагул, этнаграфія стала тым рэчышчам, што вывела да сучаснага беларускага нацыянальнага руху. Сп. Шукелойць вызначаецца асаблівай роляй, што адыграў у мацаваньні беларускай грамады ў Амэрыцы. Шукаючы мэтафары для гэтай ролі, у галаву прыходзіць параўнаньне з гіраскопам – прыладай для забясьпечаньня раўнавагі канструкцыяў. Па прынцыпе вярчэньня вакол восі надаецца стабільнасьць і арыентацыя пэўнай структуры. “І вось жа ёсьць і людзі-гіраскопы, што надаюць стабільнасьць грамадзе, і такім стабілізатарам вось ужо больш за 70 год я бачу сп. Антона Шукелойця”.

Старшыня Беларускага Народнага Фронту і Партыі БНФ сп. Зянон Пазьняк распавёў пра свае гутаркі з Антонам Шукелойцем, што былі найграныя на касэты, а пасьля сталі кнігай пад гэткай жа назвай “Гутаркі з Антонам Шукелойцем”. Наагул, пазнаёміўся зь ім у 1991 годзе. Мы землякі, з Ашмянскага павету, той самы арэал, мікракультура, мэнтальныя якасьці. Маці юбіляра – Бэнэдыкта зь Пецюкевічаў, бацьку звалі таксама Антон. Сп. Шукелойць захаваў у памяці шмат цікавых дэталяў сялянскага і шляхецкага побыту тых часоў, пачатку 1920-х гадоў, пэрыяд так званай “Сярэдняй Літвы”. Памятае беларускага патрыёта ксяндза Пятроўскага, і пачаткі антыпольскага патрыятызму сярод мясцовых людзей, які паступова пераўтвараўся ў беларускую нацыянальную сьведамасьць. Пачаткі ўласнай нацыянальнай сьведамасьці сп. Шукелойць выводзіць з часоў перапісу насельніцтва Польшчы ў 1931 годзе. Тады найлепшым ашмянскім гімназістам было даручана абыходзіць хаты і пытацца пра мову рэспандэнтаў. Але пытаўся Антон не пра мову пацераў, а пра мову штодзённага ўжытку ў сям’і, і таму выйшла, што пад 90% апытаных падалі сваёй мовай беларускую. Натуральна, што гэта быў ня той вынік, на які спадзяваліся польскія афіцыйныя ўлады, тым больш на абшары, дзе большасьць хрысьціянскага насельніцтва была каталікамі. Антон і яшчэ некалькі сяброў былі выключаныя на год з гімназіі, і вучобу потым прыйшлося даганяць. Але, тым ня менш, атрымаў матуру і паступіў у Віленскі ўнівэрсытэт, або Ўнівэрсытэт Сьцяпана Батуры, як ён зваўся афіцыйна, на філёляга-этнаграфічную спэцыяльнасьць. Браў удзел у працы Беларускага Студэнцкага Саюзу і Партыі Беларускіх Эсэраў, ведаў шмат дзеячоў беларускага адраджэньня: М. Краўцова, А. Луцкевіча, А. Уласава, М. Пецюкевіча, кс. В. Гадлеўскага, кс. А. Станкевіча. З прыходам Саветаў стаў працаваць настаўнікам у Ашмяне, перад пачаткам савецка-нямецкай вайны быў арыштаваны НКВД і перажыў допыты й катаваньні ў турмах у Глыбокім і Крупках. Вызваліўся дзякуючы наступу немцаў, пераехаў у Менск. Там стаў працаваць дырэктарам Гістарычнага музэю, асабіста ведаў Вільгельма Кубэ, сьведчаньні сп. Шукелойця аб ім – гэта важная інфармацыя, што дапаможа ў будучыні аб’ектыўней акрэсьліць своеасаблівую і трагічную асобу, што не ўкладалася ў савецкія канцэпцыі. Затым была эвакуацыя на Захад, праца ў лягерох ДП, эміграцыя ў ЗША. На новым кантынэнце працягваў грамадзкую й адукацыйную дзейнасьць, быў шматгадовым старшынём БАЗА.

Затым з прывітаньнем ад імя БАЗА выступіла старшыня Галоўнай управы БАЗА сп-ня Ганна Сурмач, яна павіншавала юбіляра і падзякавала яму за шматгадовую плённую працу на ніве беларускай грамадзкай дзейнасьці, у тым ліку на пасадзе старшыні БАЗА, падаравала прывітальны адрас з гербам “Пагоня”, падпісаны ўсімі прысутнымі.

***заканчэньне на бачыне 4***

### Дарагі і шаноўны сп. Антон Шукелойць!



Мы ведаем Вас як шматгадовага адданага змагара за волю і незалежнасьць Беларусі, які пачаў сваю грамадзкую дзейнасьць амаль 85 год таму і не спыняў яе доўгія дзесяцігодзьдзі. З Вашай дапамогай сталі сьведамымі беларусамі, адукаванымі патрыётамі сотні людзей, зь якімі зьвяло Вас жыцьцё. Вашая ахвярная праца і сяброўская дапамога назаўжды застануцца ў нашай памяці і будуць прыкладам служэньня Беларусі для наступных пакаленьняў беларускіх людзей. Жадаем Вам яшчэ шмат год жыцьця на карысьць Беларусі. Жадаем дачакацца таго дня, калі нашая Бацькаўшчына стане сапраўды вольнай, сапраўды незалежнай, сапраўды беларускай краінай. Дай Божа шмат год!

*Ад імя Згуртаваньня “Пагоня”* ***Віталь ЗАЙКА****, старшыня*

### Дарагі й паважаны Ўладыка!



Дазвольце ад імя Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” павіншаваць Вас з днём народзінаў, падзякаваць Вам за плённую працу на карысьць нашай Бацькаўшчыны і пажадаць Вам здароўя, сілаў і аптымізму для працягу Вашай дзейнасьці. Мы ведаем Вас як актыўнага сябра Згуртаваньня “Пагоня”, палкага патрыёта Бацькаўшчыны, як чалавека неабыякавага, заўсёды гатовага прыйсьці на дапамогу, якому баліць душа і сэрца за свой родны край – Беларусь. Хочам пажадаць Вам, дарагі Ўладыка, каб пабачылі як народ беларускі павярнецца да Бога і да Бацькаўшчыны, згадае ды належным чынам ушануе Вашую дзейнасьць у гэтым кірунку. Дай Божа шмат год!

*Старшыня Згуртаваньня “Пагоня”* ***Віталь ЗАЙКА***

### Шаноўныя сябры!



**16 жніўня 2015 г.** плянуецца правядзеньне сяброўскага беларускага пікніка ў **Праспэкт парку** (***Prospect Park***) у Брукліне. Запрашаем далучацца ўсіх, хто хоча правесьці вольны дзень на прыродзе ў кампаніі землякоў. Падрабязьнейшую інфармацыю пра гэтую імпрэзу можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце ***e-krama.com***
Тэлефон для кантактаў ***(732) 604-1171*** (**Ганна Шарко**).

## Юбілей сп. А. Шукелойца

***заканчэньне з бачыны 3***

Алена Дубавая зачытала прывітаньні ад Згуртаваньня “Бацькаўшчына” і шэрагу іншых арганізацый.

З прывітаньнем ад Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” выступіў сп. Віталь Зайка, які павіншаваў юбіляра ад імя арганізацыі і адзначыў, што няшмат беларускіх нацыянальных дзеячоў дажывала да 100 год, пераважная большасьць зь іх загінула не дасягнуўшы й 40-годзьдзя. Тым больш важкі й значны юбілей сп. А. Шукелойця, і з гэтай нагоды варта закрануць тую дзялянку грамадзкай працы сп. Шукелойця, якая не была згаданая папярэднімі прамоўцамі. А менавіта – дапамога новым імігрантам у Амэрыцы, што сталі прыяжджаць у ЗША пасьля краху Саветаў. Сп. Шукелойць, нягледзячы на немалады ўзрост, езьдзіў сустракаць прыбышоў на лётнішча, дапамагаў знайсьці жытло, адвакатаў, працу, і часта падтрымліваў сваімі ўласнымі грашыма. “Таму з павагай і шанаваньнем хацелася б паціснуць гэтую руку, што паціскалі пачынальнікі беларускага адраджэньня, і якая спрычынілася да пераемнасьці нацыянальных сілаў аж да сёньня”.

Сп-ня Ала Орса-Рамана прыгадала выкладчыцкую дзейнасьць сп. Шукелойца ў беларускай школцы, ягоную працу па арганізацыі пратэстаў і мітынгаў супраць савецкага татлітарызму. Аднойчы, недзе ў 1960 годзе, у Нью-Ёрк прыехаў Хрушчоў, і беларусы зладзілі акцыю пратэсту. Сп. Шукелойць здолеў прарвацца да самай машыны, у якой ехаў да ААН Хрушчоў, і разгарнуць транспарант “Свабоду Беларусі” па-ангельску. Тады гэта была афіцыйная ангельская назва Byelorussia. Сп. Шукелойця затрымала паліцыя, а назаўтра ў “Нью Ёрк Таймс” быў апублікаваны здымак з подпісам: “Расеец пратэстуе супраць візыту Хрушчова”. Відаць, так яны зразумелі тую “Byelorussia”?! Але сп. Шукелойць не сумаваў: “Ну і што ж! Будзем змагацца далей”. І гэты дух змаганьня дапамог яму, напэўна, дажыць аж да 100 год і, спадзяемся, дасьць і да 120.

Затым зь віншаваньнямі сп. Шукелойцю выступілі старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі сп. Юрка Азарка, сакратар Згуртаваньня “Пагоня” сп-ня Валянціна Якімовіч, што назвала сп. Шукелойця “сваім любімым мужчынам”, сп-ні Нэлі Ржэвуцкая, Марыя і Ганна Фларыяновіч з Бостану.

Сьпявак і паэт Сяржук Сокалаў-Воюш выканаў пад гітару свае песьні, сярод якіх была адна, адмыслова прысьвечаная юбіляру на верш “100” – “Я табой захопленыя, дзядзька Антось”. Прагучэлі таксама песьні “Маналёг случчака”, “Песьні ліcоўчыкаў” і славутая “Беларусь мая” (“Аксамітны летні вечар”).

Затым юбіляру паднесьлі сьвяточны торт зь лічбаю “100”. Прысутныя сфатаграфаваліся зь юбілярам на памяць.

***Віталь ЗАЙКА***

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| В. Зайка | 60 |
| Я. Кобак | 60 |
| В. Козырава | 60 |
| М. Можджэр | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** *Viktar Yedzinovich.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **8-га жніўня 2015 году** на прыродзе ў Цэнтральным парку на Мангэтане.

Збор а **10.30** раніцы пры ўваходзе ў парк на скрыжаваньні ***5-й авэню*** і ***72-й вуліцы***.

Сход пройдзе на паляне ля возера (*The Lake with Boating*). Паляна знаходзіцца на поўнач ад *Terrace Drive* і на захад ад *The Mall at Bethesda Fountain*..

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| В. Зайка | 30 |
| Я. Кобак | 30 |
| М. Можджэр | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя* ***Viktar Yedzinovich****.*